# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 16 (1666) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 17 КРАСАВІКА 1988 г. ЦАНА 20 зл.




*Вільня вачыма М. Купавы.*

## У КАСТУСЁВЫМ КРАІ

У канцы кастрычніка мінулага года на Беласточчыне некалькі дзён гасцявалі з групай мастакоў з Беларускай ССР графік Мікола Купава і жывапісец Віктар Маркавец. Абодва яны — выпускнікі кузні мастацкіх талентаў Беларусі, Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, іх творчасць шырока вядома ў СССР. У мастацкіх выстаўках яны ўдзельнічаюць з 1972 г.

М. Купава родам з Оршы. Найбольш ахвотна працуе ў тэхніках лінагравюры, акварэлі, літаграфіі. Замілаваны ў гістарычным мінулым Беларусі, стваральнік прасякнутых глыбокім пачуццём прац, прысвечаных К. Каліноўскаму, Ф. Багушэвічу, В. Дуніну-Марцінкевічу, А. Пашкевіч-Цётцы, Я. Купалу, Я. Коласу і іншым выдатным людзям роднага краю. Ён — знакаміты майстар кніжнай графікі, яго працы здобяць шэраг выданняў беларускіх аўтараў, у тым ліку К. Каганца, В. Каратынскага, С. Александровіча, А. Ліса.

В. Маркавец паходзіць з Докшыц. Далікатны каларыст і пранікнёны псіхолаг, у сваіх сюжэтна-тэматычных карцінах, партрэтах, пейзажах па-майстэрску спалучае ў адзінства гістарычныя традыцыі з сённяшнім днём Беларусі, адводзіць шмат увагі людзям працы і тым новым з'явам, якімі сучаснасць упісваецца ў беларускі краявід. Шэраг работ прысвяціў ён бацькам і родзічам Я. Купалы, Я. Коласа, дзеячам беларускай культуры, жыццю беларускай вёскі, беларускім нафтавікам.

Запісаў я з імі наступную размову.

**М. Гайдук:** З якой нагоды вы прыехалі на Беласточчыну?

**М. Купава:** Як вядома, у 1988 г. адзначаем дзве выдатныя гадавіны: 150-ую гадавіну з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага і 125-ую гадавіну Студзеньскага паўстання. У сувязі з гэтым у БССР праводзіцца шэраг мерапрыемстваў. Саюз мастакоў рыхтуе адмысловую мастацкую выстаўку. Але, вядома, за доўгія часы беларускія мастакі не мелі магчымасці наведаць родныя аселіцы Кастуся Каліноўскага, якія знаходзяцца на Беласточчыне. Узнікла задума не толькі зрабіць замалёўкі, але вывучыць і мастацка засвоіць мясціны, дзе нарадзіўся К. Каліноўскі і дзе праходзілі падзеі Студзеньскага паўстання. Прыехала нас група 5 чалавек мастакоў: мы ўдвох з Мінска і трох нашых калег з Гродна (Уладзімір Коўзусь, Сяргей Асапрылка і Уладзімір Казакоў).

**М. Г.:** Дзе вы былі і што рабілі?

**В. Маркавец:** Асноўную ўвагу мы звярнулі на Мастаўляны, радзіму К. Каліноўскага. І прыемна ўражаны маляўнічасцю тых мясцін над рэчкаю Свіслаччу. Мы перш за ўсё імкнуліся спасцігнуць адметныя рысы гэтага цудоўнага кутка.

**М. К.:** Мы замалявалі агульныя віды Мастаўлян, асабліва месца, дзе была сядзіба Каліноўскіх, падмуркі сядзібы, рэшткі парку, наваколле, будынак былой школы імя К. Каліноўскага. Потым наведалі магілу паўстанцаў у Перацёсах у былой Крыноцкай пушчы, пабывалі ў Ялоўцы, Гарадку і ў Доме культуры імя К. Каліноўскага, пазнаёміліся са старымі раёнамі горада Беластока, дзе, магчыма, Б. Шварцэ, В. Урублеўскі і К. Каліноўскі друкавалі „Мужыцкую праўду".

**В. М.:** Апрача гэтага, наведалі беластоцкія музеі, выстаўкі, між іншым, выстаўку Лёніка Тарасэвіча. У Супраслі мы захапляліся архітэктурным ансамблем былога манастыра. Асабліва ўзрушыў нас факт адбудовы Благавешчанскай царквы. Глядзелі мы захаваныя рэшткі фрэскаў са зруйнаванай падчас вайны гэтай жа царквы. Наведалі Супрасльскі мастацкі ліцэй. Надарылася нам таксама нагода пабываць у Варшаве, на яе Старым Месце, прайсціся Каралеўскім Шляхам, наведаць Нацыянальны музей, паглядзець актуальныя мастацкія выстаўкі.

**М. Г.:** А з кім сустракаліся?

**М. К.:** Перш за ўсё з жыхарамі Мастаўлян. Цікавыя гэта былі апавяданні пра даўнія часы. Пачулі мы ад старэнькага селяніна легенду пра тое, што Кастусь Каліноўскі не загінуў на шыбеніцы. Ён з'яўляецца ў родных мясцінах. Як старэнькі чалавек

**(Працяг на стар. 4)**




## НАІЎНАСЦЬ НА МЯЖЫ ЗЛАЧЫНСТВА?

У сувязі з *„Занатоўкамі з Англіі“* Сакрата Яновіча, рэдакцыя атрымала палемічныя пісьмы, якія не дадаюць нічога новага, а часта сведчаць пра несарыентаванасць іх аўтараў у беларускай гісторыі. Напрыклад, Юрка Трачук іранізуе, што Яновіч, пішучы ў *„Ніве“* ад 7 лютага пра антыкаланіяльную брашурку *„Чаму ж усыхаюць кветачкі польскія на гною Беларуска-Літоўскім“*, выпушчаную ў 1921 годзе з подпісам *„нейкага М. Арла“*, не ведае, што пад такім псеўданімам хаваўся вядомы паэт Сцяпан Пятэльскі з нашага Гарадка. І Трачук павучае Яновіча, дасылаючы ў *„Ніву“* жыццяпіс Пятэльскага-Арла, чамусьці абмінаючы, аднак, год смерці паэта. А памёр жа ён, як можна прачытаць у энцыклапедыі, у 1917 або 1918 годзе. Што гэта можа значыць? Менавіта тое, што Пятэльскі не сутыкнуўся з белапольскай акупацыяй, а значыць не мог быць аўтарам спомненага беларускага падпольнага выдання, хоць і падпісанае яно: М. Арол. Таму і вагаецца Яновіч, гаворачы: нейкі М. Арол.

На іншы ўрывак тых *„Занатовак з Англіі“* (ад 31 студзеня) Юрка Трачук даслаў у рэдакцыю рэпліку памерамі ў дзесяць старонак густога машынапіснага тэксту, з якога, натуральна, можам выбраць да друку толькі фрагменты з фактамі. Гэта добра, што рэпартажы С. Яновіча паспрыялі зацікаўленню тутэйшымі беларускімі палітычнымі традыцыямі. І што Юрка Трачук дакіне да іх сваю вучоную цаглінку.

„Вернемся, аднак, да беларускага партызанскага руху, — зазначае Ю. Трачук. — У 1923 годзе ахапіў ён большую частку тэрыторыі краю. Агульная колькасць партызан складала ў той час каля шасці тысяч, а не як пераконвае Яновіч: раптам колькі сот (партызанаў). Кіраўніком партызанскіх атрадаў і груп быў не адзін Герман Скамарох (Шыманюк), але і К. Арлоўскі, С. Ваўпшасаў, В. Корж, А. Рабцэвіч, Ф. Яблонскі, К. Такушэвіч, С. Радкевіч, Д. Балашка і шмат іншых. Нават у той няшчасны дзень 6 мая 1922 г., калі два палкі рэгулярнага польскага войска, жандармерыі і паліцыі, мабілізаванай з усяго ваяводства ды прывезенай з глыбіні Польшчы, акружылі Белавежскую пушчу, яны здолелі захапіць усяго дзевятнаццаць партызанаў. Іншыя здолелі выйсці з акружэння. Мы ведаем прозвішчы амаль усіх захопленых: К. Ігнатовіч, І. Бакуновіч, І. Чэрашкевіч, Т. Нікановіч, В. Давідовіч, С. Гапановіч, А. Тамашук, І. Захарчук, В. Тамашук, Я. Іванюк, П. Нічыпарук, І. Пітулюк, Д. Мартынюк. Вядома таксама, што ў той жа дзень — разам з партызанамі — арыштавана была жонка Скамароха (Германа Шыманюка), Альжбета Шыманюк“.

Наконт жонкі Скамароха цы-

(Працяг на стар. 5)



## Свойскія малюнкі



Царква ў Трасцяніцы. Малюнак У. Пятрука.

# У КАСТУСЁВЫМ КРАІ

(Працяг са стар. 1)

з'явіўся таксама ў Мастаўлянах і прасіў людзей пацвердзіць, што ён тут жыў, бо яму тое патрэбна ў якойсьці ўстанове. „Я цяпер — вандраўнік. Але тут нарадзіўся і жыў, — казаў. — Вы ж усе мяне добра памятаеце...“ Размаўлялі мы з людзьмі, якія жывуць на тым месцы, дзе была сядзіба Каліноўскага.

**В. М.:** У аддзеле культуры і мастацтва Ваяводскай управы вельмі сардэчна і міла прыняла нас дырэктар Марыя Маранда; супрацоўнікі аддзела, асабліва Валянціна Казімерчык і дырэктар Бюро мастацкіх выставак „Арсенал“ Ірэна Дайліда вельмі дбайна намі апекаваліся. Наведалі мы вядомага ў вашым краі маладога мастака Л. Тарасэвіча, яго майстэрню, якую ён абсталёўвае ў вёсцы Валілы, пазнаёміліся з яго бацькамі. Зазірнулі і ў „Ніву“, пагутарылі з яе супрацоўнікамі. У Міхалове, у інтэрнаце сельскагаспадарчага тэхнікума, дзе была наша асноўная база і мы мелі добрыя ўмовы, сустрэліся з настаўнікамі і моладдзю. Вельмі цікавая была ў нас сустрэча з групай беларускай студэнцкай моладзі, у тым ліку Ю. Ляшчынскім, М. Ваўранюком і іншымі, хто рэдагуе „Прысутнасць“, а таксама з адкрывальнікам магілы А. Гаруна ў Кракаве Алегам Латышонкам. У нас была доўгая і гарачая дыскусія з імі і па пытаннях сучаснага мастацтва і па гісторыі беларускага народа.

**М. Г.:** А які мастацкі плён вашай пабыўкі ў нас?

**М. К.:** Пра канчатковы плён, вядома, гаварыць яшчэ рана. Аднак мы сабралі багаты натурны матэрыял: замалёўкі, накіды, эцюды, а найважнейшае — мноства ўражанняў. Наперадзе ў нас асэнсаванне ўсяго гэтага, інтэнсіўная праца ды падрыхтоўка да выстаўкі. У мяне ўжо ёсць задумы на серыю графічных лістаў і іншыя працы.

**В. М.:** Бясспрэчна, што назапашаны намі матэрыял і ўражанні гарантуюць далейшую натхнёную працу.

**М. Г.:** Зычу багатага мастацкага плёну пра Вялікага Вандраўніка і Беластоцкі край!

**М. Гайдук**




22 лютага Ваяводскі пракурор Марак Лахоўскі сустрэўся з беластоцкімі журналістамі.

У 1987 годзе пракурорскім адзінкам у Беластоцкім ваяводстве давялося мець справу з 8756 злачынствамі. Гэта на 3,3 працэнта менш, чым у папярэднім, 1986 годзе. На Беласточчыне, як і ва ўсёй краіне, паглыбляецца працэс стабілізацыі грамадскага жыцця.

Аказваецца, што на працягу трох апошніх гадоў (85-87) колькасць злачынстваў паменшала ў нас аж на 20 працэнтаў. Беласточчына прыналежыць да спакайнейшых, болей бяспечных раёнаў Польшчы. На 100 тысяч насельніцтва ў цэлай краіне ў 1987 годзе было 1350 злачынных здарэнняў, а ў Беластоцкім ваяводстве — на 59 менш.

Найбольш грознымі злачынствамі пракуроры (ды не толькі яны) лічаць бандыцкія разбоі, спалучаныя найчасцей з аграбленнем ахвяр. Беластоцкая пракуратура мела справу з 280 разбойніцкімі злачынствамі. Здарылася 16 забойстваў. Западозраных у злачынствах было 5100 чалавек, з чаго амаль 15 працэнтаў — гэта людзі непаўналетнія.

Лікі, працэнты, паказчыкі... Яны, вядома, неабходныя, ствараюць нейкі абагульнены вобраз грамадзянскай хваробы, якой, безумоўна, з'яўляюцца крымінальныя злачынствы. Яны, аднак, адгароджваюць нас ад рэальных абставін жыцця, не дазваляюць наблізіцца да чалавечага болю, які пакідаюць за сабою зладзеі і разбойнікі. Дык статыстычныя паказчыкі неабходна падмацаваць канкрэтнымі прыкладамі.

Вядома, што продаж і скупка замежнай валюты забаронена ў нас законам. Нягледзячы на гэта, амерыканскія долары і нямецкія маркі або англійскія фунты стэрлінгі сталіся ў нас, бадай, найбольш вартаснай і пажаданай валютай. Хопіць паявіцца ля валютнага банка або побач з фірмай „Пэвэкс“, а тут жа хтосьці ў вас прыцішаным голасам запытае: „Прадаеце?“

Марак М., Ежы К. і Яўгеній С. скуплялі і прадавалі не паасобныя „зялёныя паперкі“, а тысячы іх! Міліцыянеры, спецыялісты ад валютнага чорнага рынку, распрацавалі гэтую тройку „цінкцыроў“, як іх папулярна ў нас называюць. І што аказалася? Ад Марка М. міліцыянеры канфіскавалі 500 долараў і 3 мільёны 810 тысяч злотых, Ежы Т. меў для продажу 7216 долараў, а Яўгеній С. вымушаны быў прымірыцца з фактам, што міліцыя рэквіравала ў яго: 11 тысяч 520 долараў, 1110 марак ФРГ і 5 мільёнаў 530 тысяч злотых.

Адначасова міліцэйскія разведчыкі ўстанавілі, што адзін селянін з Астралэнцкага ваяводства, Ян К., якому 43 гады, 5 студзеня 1988 года купіў ад Марка М. нейкія 3 тысячы долараў, заплаціўшы за іх звыш 4 мільёнаў злотых. Яўгеній С. таму ж самаму гаспадару прадаў таксама 4 тысячы 200 долараў, за якія ўзяў больш за 5 мільёнаў злотых. Усе яны апынуліся на часовым дзяржаўным утрыманні.

Аб гэтым злачынстве людзі голасна гаварылі і ў Бельску і ў Гайнаўцы. 20-гадовая дзяўчына, якая ў гэтым годзе мела закончыць медыцынскі ліцэй, з сякерай накінулася на сваіх уласных спячых бацькоў. Бацька, які загадзя прачнуўся, абараніўся, выраў у яе сякеру з рук. Ён быў паранены. Тады дачка ўцякла з дому і толькі ў апошніх днях міліцыя знайшла яе ў Бельску. Сваёй сястры яшчэ раней, да гэтага злачынства, прызналася, што яна прыналежыць да секты „сатаністаў“. На доказ гэтага паказала сястры адвернуты крыж (перакладзінай уніз), які яна, быццам бы, уласнаручна выразала нажом на сваіх грудзях, і тры адвернутыя „шасцёркі“, таксама выразаныя на назе.

Раённая пракуратура ў Гайнаўцы не ўстанавіла яшчэ сапраўдных прычын жудаснага злачынства. Падазраюць толькі, што Ірына Ч. мела прэтэнзію да сваіх бацькоў за тое, што яны не дазвалялі ёй выйсці замуж за цыгана.

Тая ж Раённая пракуратура ў

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Артур Буйноўскі, Марэк Попка, Анэта Андрэюк, Мажэна Ялоза і Януш Яканюк — пяцікласнікі з Барысаўкі.
Фота Я. Чэрнякевіч.

Яўген Пярмяк




(Казка)

Гэтая казка пачала расказвацца вельмі даўно, у далёкія вякі, а дакончыцца і цяпер не можа. І жыве яна, як хата без страхі, як кажух без каўняра, як певень без голасу. І хто толькі яе не дасказваў — дзедаў дзед, бабкіна прабабка, сівы мудрэц, рыжы хітрун — ніхто не ўмеў давесці яе да канца. І я не бяруся. Каму трэба, той хай і заканчвае яе. Мая справа — пачаць...

Жыў-быў вясёлы і гарластай душы чалавек, па прозвішчу Шуміла Гарлапанавіч Якалка. Празвалі яго так за тое, што без „я" ён двух слоў вымавіць не мог. Якаў на кожным слове: я ды я. Самахвальствам пачынаў і хвальбою заканчваў.

Ледзь што дзе — Якалка галасней за ўсіх шуміць. Ці балота народ асушваць надумаецца, ці няворaную зямлю ўзнімаць пачне, ці, скажам, студню капаць — Якалка адразу тут:

— Братцы! Браточкі! Я горы варочаць магу! Я рэкі заварочваць магу! Я ўсё магу.

Маўчаць людзі, а пра сябе думаюць: „Ты ў рабоце сябе пакажы, тады і ацэнім".

Жыў-быў другі чалавек, па прозвішчу Ціхей Маўчанавіч Усмешка. Падатлівы такі чалавек, ціхі. Маўклівы. Заўсёды з усмешкай. Не чуваць яго, не відаць. Сябе не паказвае, горла не дзярэ, размоў не заводзіць, па зацененым баку ходзіць. Адным словам, усе тры мянушкі — Ціхей Маўчанавіч Усмешка — не дарма яму ў казцы дадзены. І дадаць да іх няма чаго.

Задумаў неяк народ рэчку перагарадзіць ды на ёй млын паставіць. Якалка першы на сход прыбег. Рукамі махае, языком арэ, словамі сее, хвальбой баранue. Калі б кожнае яго слова ўзышло, дык тры ўраджаі ў год было б.

А Ціхей тым часам на бервяне сядзіць, маўчыць, кожнае слова з усмешкай слухае, быццам пернік з'ядае.

Памеркавалі, параіліся, пачалі плаціну майстраваць.

Самахвала ў новай чырвонай кашулі выйшаў. Рукавы ледзь не вышэй плеч засунуў. Лапату так навастрыў, што галіцца ёю можна. Чаранок у лапаты шклом выпаліраваў, шкуркай начысціў. Валёны капялюш пяром з пеўневага хваста прыстроіў.

— Эх, цудоўны капялюш! — хваліцца Якалка. — Ад сонца вочы ахоўвае і ад іншых мяне адрознівае. Усе мяне па пяру ўбачаць, заўважаць, як спрытна я зямлю кідаю, як спорна плаціну ўкладваю.

А Ціхей Маўчанавіч моўчкі і спакойна на работу выйшаў. У рабочай кашулі са звычайнай маласільнай лапаткай. Корпаецца сабе ў зямлі і памоўчвае.

— Вось гэта чалавек! — кажуць старыя. — Сабою не абношваецца. Не тое, што той: я ды я.

Мінуў дзень, пайшоў другі. Якалка галасней за ўсіх. Песню заспяваў:

Я ўсё ўмею, усё магу
У патрэбе ўсім дапамагу...

Прыйшоў канец рабоце. Пачалі ацэньваць кожнага працу. Мералі, лічылі — самі сабе не паверылі. А калі народу аб'явілі — шум узняўся.

— Як гэта так? Якалка — найлепшы? За сямёх зрабіў? Немагчыма! Перамераць.

Добра. Перамералі. Усю ноч лічылі. А раніцой зноў здзівіліся. Дзівіся ці не дзівіся, а лік сваё паказвае. Аказваецца, што ўчора яму яшчэ не далічылі. За дзесяцёх з гакам работу зрабіў.

— Як жа ты так змог?

А ён ім:

— Я яшчэ і не так мог бы. У паўсілы працаваў. Ціхея шкадаваў. Вось пачнецe млын ставіць я тры вуглы пастаўлю пакуль трое адзін чацверты зробяць. Бо я майстар! Я па сем разоў адну работу не раблю...

І давай, і давай:

Я ўсё ўмею, усё магу
У патрэбе ўсім дапамагу.

Ну добра. Пачалі млын стаўляць. Зноў прыйшоў час работу падлічваць. Начальства прыехала. Усім сялом вуглы лічылі, падгонку бярвенняў ацэньвалі.

А Якалка ходзіць сабе, зубы скаліць ды падспеўвае:

Я ўсё ўмею, ўсё магу
У патрэбе ўсім дапамагу...

У сотню вачэй людзі памылкі шукаюць. І так і сяк хочуць крыкуна абсадзіць. Не выхо-

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Ніл Гілевіч

### ЗАБЛУДЗІЎСЯ ЗАЙКА

На палянцы ў лесе
Зайка забаўляўся:
Бегаў, колькі ўлезе,
У траве куляўся.
А як сонца села
І наўкол сцямнела,
Зайка спахапіўся,
Што дамоў спазніўся.

Кінуўся ён бегчы,
Ды ў ляснoй гушчэчы
Ад вялікай спешкі
Збіўся дзесь са сцежкі.
Плача зайка ў цемры —
Боязна малому:
— Як адсюль цяпер мне
Даскакаць дадому?

Раптам каля елкі
Светлячок маленькі
Запаліў ліхтарык:
— Не бядуй, таварыш!
Кроч за мной па сцежцы
Аж да хаты самай.
Так наш зайка ўрэшце
І сустрэўся з мамай.

(з Л. Мілевай)

### РАЗМОВА ПРА СЛАНА

— Мама, колькі важыць слон,
Як зусім маленькі ён?

— Ды, напэўна б, сто кіло,
Каб узважылі, — было.

— А ў яго матулька ёсць?
А ў яе бывае злосць?

— Мама добрая ў слана,
Хоць і сварыцца яна.

— А калі і дзе ён спіць?
І ці просіць слонік піць?

— Спіць пад дрэўцам уначы.
Спі і ты, сынок,
Маўчы.

(з Ц. Агнелава)

### МЯДЗВЕДЗЬ-ЛАСУН

Захварэў
Ласун-мядзведзь:
Лёг і стогне
Ледзьве-ледзь.

Захварэў таму,
Што мёду
З'еў за раз
Амаль калоду.

Доктар Вожык
Як агледзеў,
Насварыўся
На мядзведзя:

— Калі хочаш
Ведаць смак,
Дык не еш
Памногу так!

(з Г. Весялінава)

### ЗА ГЭТА НЕ ПЕРАЖЫВАЙ

Жонка, зваленая грыпам у пасцель,
Просіць мужа: — Абяцай, што
як памру...
Мужу слухаць просьбу гэтую няўсцерп:
— Перастань! Во для цябе таблетку
тру!
Заўтра ўжо ты будзеш чуцца
здаравей...
Але ўпарта паўтарае жонка зноў:
— Пакляніся: калі я пайду навек...
— Дарагая, кінь! Не трэба марных
слоў!
— Не, ты выслухай наказ апошні мой:
Хай жанчына, што заменіць тут мяне,
Не адзене маёй транты ні адной, —
Ані плашч, ні паліто не апране!...
— Го! Па гэтым не баліць хай галава:
За цябе яна таўсцей разы ў два!

**Ніл Гілевіч**

### НЯЧЫСТАЯ СІЛА

Сусед мой пра гарэлку гаварыў:
— Сядзіць нячыстая ў ёй сіла —
Гадзіну цэлую не хіліў,
Але яна мяне зваліла.

**Ігнат Сабчук**



Вужы: Як думаеце, колькі іх?

Адказ: 18 вужоў.

# НІЎКА



### ЁН І ЯНА

— Ты пра мяне марыў усё жыццё? — заглядае ў вочы каханаму дзяўчына.
— Вядома.
— І калі ў школу хадзіў?
— Кожны дзень.
— А раней?
— У дзетсадзе так, а пра яслі трэба ў мамы спытаць.

### ДЗІЦЯЧАЯ РАДАСЦЬ

— Татка, ці праўда, што ты запісаўся ў пажарнікі?
— Праўда, мае дзіцятка.
— Ой, як я рад! Дык гэта ж цябе будуць хаваць з музыкай.

### ШКОДНЫЯ СЛОВЫ

— Больш я ніколі да Кастуся ў госці не пайду. Ад яго слоў дасюль галава трашчыць.
— Цікава, што ж ён малоў?
— Раз за разам паўтараў: „Вып'ем яшчэ па адной!"

### ДБАЙНЫ СЫН

— Ал-ло! Мама, гэта вы? Лякарства я вам яшчэ не купіў. Цёплыя тапкі, пра якія вы мне нагадвалі ў мінулы раз, яшчэ не знайшоў. Акуляры, як будзе час, абавязкова закажу. Пра лімоны — памятаю. Грэлку, як толькі купліо, адразу перадам цёткай Ірынай. Можа, яшчэ нешта трэба, не саромейся — кажыце.



— Нічога, нічога! Адчыняйце. Я ведаю, што вы там!



Ён ускапае любую гару, толькі намякні, што на тым месцы трэба выкапаць камусьці яму.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

На стадыёне ідзе чарговы розыгрыш футбольнай латарэі. Дыктар аб'яўляе:
— Пятро Бесталанька выйграў аўтамабіль „Жыгулі".
Хто крычыць, хто свішча, хто стогне. Праз хвіліну зноў лунае голас дыктара:
— Уношу папраўку: Пятро Бесталанька выйграў не аўтамабіль „Жыгулі", а веласіпед „Украіна".
На трыбунах зноў шум. А праз момант — голас дыктара:
— Выбачайце, таварышы балельшчыкі, Пятро Бесталанька не выйграў веласіпеда „Украіна", а ў яго яго проста ўкралі.
Стадыён аблегчана сціх.

*

Пажылы клерк звяртаецца да шэфа з просьбай даць яму адгул.
— Адгул! Чаму гэта, цікава?
— Бачыце, сэр, у мяне заўтра залатое вяселле, і я абяцаў жонцы...
— Дзеля ўсяго святога, Браун, ці не хочаце вы сказаць, што будзеце патрабаваць адгул кожныя пяцьдзесят год!

### СВЯТКАВАЎ

Пан Задрыпкоўскі прыйшоў у міліцэйны ўчастак і заявіў, што пяць дзён назад прапала яго жонка.
— Чаму ж вы толькі цяпер аб гэтым заяўляеце? — пытаецца дзяжурны.
— Бо да гэтага часу святкаваў з такой нагоды.

### З „Весніка Задрыпоніі"

### БАРАЦЬБА РАЗГОРТВАЕЦЦА

Пашыраецца рух „Цвярозасць — норма жыцця!" Пачынаючы ад студзеня бягучага года ў магазінах горада Ікаўка алкагольныя напіткі адпускаюцца пакупнікам толькі пры прад'яўленні членскага білета таварыства цвярозасці.

### З ДУХАМ ЧАСУ

Цырульня „Люкс" ад новага месяца пераходзіць на самаабслугоўванне.





Рассеяны.



## Курёзы

### НА ЗАЙМІШЧЫ

Сябар мне расказаў. У іх у Сібіры на займішчы дзядуля-стараверр (пад семдзесят) аказаўся ўдаўцом і адзінокім. Але, як многія сібірскія дзядулі, да таго ж стараверы (а гэта значыць — не п'е і не курыць), быў яшчэ дужы. І вось — конь на чатырох нагах, і то спатыкаецца — у горадзе кінулася яму ў вока трыццацігадовая афіцыянтка з задрыпанага рэстаранчыка, маляваная, курыць, словам, палкам сучасная асоба, якая прайшла многія катлы і медныя трубы. І спадабалася так, што стары зусім страціў галаву. Ды і — адзінокі на сваім займішчы. Угаварыў ён красуню на лёгкі хлеб і павёз у сваю таежную хатку ў ролі жонкі. Нават тое, што курыць, не спыніла яго.

І вось карціна. Стары прачынаецца раніцай, з узыходам сонца, пачынае рухацца, варушыцца па гаспадарцы. Там вулей з пчоламі, там дровы, там у зямельцы пакалупацца: агародчык, конік. Па ваду схадзіць на ручай.

А былая афіцыянтка спіць сабе, не ведаючы клопатаў, адсыпаецца за ўвесь папярэдні недасып. Ды і прывыкла, пэўна, ноччу не спаць, а днём спаць — вобраз жыцця. Усё ж а гадзіне дзесятай сэрца старога не вытрымлівае, ён на дыбачках падыходзіць да спячай, кранае яе за плячо:
— Гражданочка, гражданочка... вставать бы пора...

*У. Салаухін*



Калі дурань паслужлівы, ён не такі ўжо дурань.